## Дажывем да сакавіка

*ВАЛОЖЫН. У чаргу на здачу крыві запісваюцца ў большасці маламаёмныя і беспрацоўныя, таксама маладыя маці, часцяком самі моладзь. Штодня 15-20 донараў прыходзяць у райбальніцу, атрымліваюць 400 тысяч рублёў - за 200, 400 мл.*

У выніку планавае гадавое заданне па крыві перакрылі. Нарыхтавалі 314 літраў. Сёння жадаючых запісваюць аж на сакавік.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

**Прафесіяналы**

## Ад Кацікава

*АСТРАВЕЦ. У ансамблі "Песняры" спявае і астраўчанін Аляксандр Кацікаў. Нядаўна ён нечакана ажыццявіў цэлую музычную кампазіцыю "Жывем" на вершы Ларысы Геніюш.*

Песні запісаныя, сам аўтар выконвае тры з дзесяці. І калі вырашыцца пытанне са спонсарамі, то прэзентацыя мае адбыцца на Каляды. Чакае фінансавання і выпуск кампакт-дыскаў.

*Аддзел інфармацыі.*

## Міліцыя мела патрэбу ў сведках

*АШМЯНЫ. Днямі многія гледачы былі сведкамі заналынага конкурсу мастацкай самадзейнасці райаддзелаў міліцыі.*

Калектывы з Ашмянаў, Смаргоні, Астраўца, Іўя і ЛПП-5 Навагрудка спявалі песні, танчылі.

Спадабаўся гледачам вакальны квартэт з Астраўца - **Уладзімір Кабрынец, Сяргей Шэін, Уладзімір Кокаш і Аляксандр Альховік** - ім доўга апладзіравалі і не адпускалі са сцэны.

*Аддзел інфармацыі.*

**Рынак працы**

# На 1 рабочае месца Гродзеншчына мае 6 беспрацоўных

***МЯДЗЕЛ. Асабліва пакутуюць ад беспрацоўя жыхары невялікіх гарадоў - райцэнтраў і гарпасёлкаў. У Свіры нядаўна закрыўся філіял Смаргонскага завода аптычнага станкабудавання.***

Без работы засталіся ўсяго 32 чалавекі, але і гэта адчувальна (беспрацоўных у Свіры было каля сотні). Цяпер тут не маюць работы больш за 10% працаздольнага насельніцтва.

Пасёлак месціцца ў маляўнічым месцы, ля возера; людзі маюць жыллё, але не работу. На жаль, гэта тыповы прыклад правінцыйнага беспрацоўя, што тычыцца не толькі нашага рэгіёна. У цяперашніх умовах становішча абсалютна безнадзейнае. Толькі дзяржаўная дапамога магла б палепшыць сітуацыю.

*Сямён ДАЎГАЛЁЎ.*

**Гадавіны**

## Ёсць прычына выпіць

<u>Сёлета многія гарады краіны святкуюць вялікія і малыя юбілеі. Калі сталіца, да прыкладу, мае 930, то старажытны Полацк - 1135, Ліда - 610.</u>

*МАЛАДЗЕЧНА. Вёска Беніца, што ў Лебедзеўскім сельсавеце, мае 490 гадоў.*

На думку **В. Жучкевіча** назва яе пайшла ад прозвішча Бенін. Але прозвішчы шляхты сфарміраваліся ў апошняй чвэрці XVI стагоддзя. Што тычыцца сялянаў, то яны атрымалі прозвішчы ў канцы XVIII-пачатку XIX стагоддзя. Першы ўспамін пра сяло адносіцца да 1507 года. Тады яно называлася Бейніца.

На маю думку, у аснове гэтай назвы "Бей" - ганаровае званне дробных феадалаў у татараў, а "-ніца" - фармант, пры дапамозе якога ўтварылася назва. Застаецца дадаць, што з XIV стагоддзя татарскія ханы былі частымі гасцямі ў Вялікім княстве Літоўскім. Князь **Вітаўт** жаніў татарскіх воінаў з літвінкамі (беларускамі) і надзяляў зямлёю, а яны ўзамен абавязаныя былі несці воінскую службу ў войску князя.

*АСТРАВЕЦ. Вёска Германішкі Гудагайскага сельсавета мае 610 гадоў.*

Упершыню яна згадваецца ў 1387 г. сярод паселішчаў, якія **Ягайла** аддаў касцёлу Святых Станіслава і Уладзіслава ў Вільні. Назва ўтвораная ад імя Герман, уключаная ў праваслаўны каляндар у XIII стагоддзі.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

**Культ-ура**

*МАЛАДЗЕЧНА.* 13 снежня на базе Палачанскага СДК падвядзеныя вынікі раённага агляду-конкурсу драматычных калектываў. У ліку пераможцаў Палачанскі, Красненскі, Аляхновіцкі, Лебедзеўскі дамы культуры.

Персанальныя ўзнагароды ў конкурсе чытальнікаў атрымалі **Уладзімір Свістуноў** з Хажова і **Ганна Хурс** з Гарадзілава.

Раённы арганізацыйна-метадычны цэнтр (РАМЦ) рыхтуе свята, прысвечанае 80-годдзю раённага ЗАГСа, якое адбудзецца 20 снежня.

Гарадскі конкурс цырульнікаў (яго праграму рыхтуе гарадскі Дом культуры) арганізуецца 23 снежня ў Доме культуры чыгуначнікаў.

Гарадскі навагодні баль для таленавітай моладзі пройдзе 27 снежня ў актавай зале палітэхнікума.

"СНІД - дарога ў нікуды" - пад такой назвай мастацка-публіцыстычнай праграмы выязной агітбрыгады ГДК праходзіць асветніцка-прапагандысцкая работа па прафілактыцы СНІДу сярод моладзі горада.

На Усепольскім конкурсе фартэпіяннай музыкі, што праходзіў 5-11 снежня ў г. Пётрыкаў-Трбунальскі, 2 месца заняла **Наташа Паўлоўская**.

*ВІЛЕЙКА.* Школа рамёстваў працуе пры раённым арганізацыйна-метадычным цэнтры, дзе розным відам дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва навучаюцца культработнікі, каб потым перадаць атрыманыя навыкі ўдзельнікам сваіх калектываў мастацкай самадзейнасці.

Шчырыя словы падзякі за матэрыяльную падтрымку ў правядзенні святкавання 50-годдзя гарадской бібліятэкі і прэзентацыі кнігі **Ганны Новік** "Мая Вілейшчына" выказалі работнікі гарадскога аддзела культуры і бібліятэкі нафтабазе, мэблевай фабрыцы, хлебазаводу, малым прадпрыемствам "Утульнасць", "Лянок", "Памяць", магазіну "Рамонак".

*СМАРГОНЬ.* Творчую праграму да свята навасёлаў, што адбылося 9 снежня, падрыхтаваў раённы дом культуры. Шчаслівых навасёлаў (сярод іх і 15 сем'яў афганцаў) вітаў Дамавік, лепшы сябра і дарадца Вясёлы Гном.

На прайшоўшым 12-13 снежня ў Гродне абласным фестывалі прафесійнага майстэрства культработнікаў раён быў прадстаўлены чатырма праграмамі - "Дарагое самае імя", "Забавы клубнага дамавічка", "Па сакрэце вам скажу", кабарэ-дуэт "Люсік і Алюсік" (жартоўная праграма).

*АШМЯНЫ.* **Наталля Сянкевіч** стала лаўрэатам абласнога конкурсу прафесійнага майстэрства культработнікаў "Снежань. Каханне. Кветкі." (Гродна, 12-13 снежня).

Па выніках прайшоўшага 5 снежня міжраённага фестывалю мастацкай самадзейнасці І месца заняў Ашмянскі раён (кіраўнік **Алена Калыбіна**).

*Тэрэса ВАСІЛЬЕВА.*

**Краязнаўства**

# Загадкавыя камяні



***ВІЛЕЙКА. Мінулае лета прынесла некалькі цікавых археалагічных знаходак. Гэта культавыя камяні з маленькімі штучнымі ямкамі. Раней у Вілейскім раёне былі вядомы два падобныя камяні. Па дзве ямкі ёсць на вяршыні шырока вядомага Варацішына камня ў вёсцы Камена і на ўвогнутай паверхні камня-следавіка з Бароўцаў. І вось новыя знаходкі.***

Два камяні знойдзеныя ўдзельнікамі экспедыцыі Акадэміі Навук Беларусі. Гэта валун, які ляжыць ля дарогі на ўскрайку вёскі Дварэц і буйны валун у полі ля вёскі Мішуты. Першы сцягнуты са свайго месца і перавернуты, таму цяжка сказаць, колькі ўсяго на ім ямак. Пакуль іх удалося налічыць чатырнаццаць. А вось на плоскай паверхні другога ўдзельнікі экспедыцыі налічылі больш за восемдзесят ямак. Такая іх колькасць - з'ява ўнікальная для Беларусі. Часцей іх бывае тут ад двух да паўтара дзесятка. Яшчэ адзін камень знайшоў аматар даўніны Анатоль Занкавіч (на здымку) каля вёскі Уткі. І вось літаральна днямі намі знойдзены яшчэ адзін валун з ямкамі ля вёскі Канстанполле. Гэта ўжо шосты на Вілейшчыне, а ўсяго ў Беларусі іх вядома каля дваццаці. У Эстоніі ёсць каля двухсот такіх камянёў, у Літве і Латвіі - значна менш. Камяні з ямкамі распаўсюджаныя ў Паўночнай і Сярэдняй Еўропе, сустракаюцца таксама і ў Азіі.

Калі з'явіліся ямкі на камянях? Вучоныя Прыбалтыкі лічаць, што прыкладна дзве тысячы год таму іх высвідравалі старажытныя чалавек. Ямкі на беларускіх камянях маюць дыяметр 3,5-5 сантыметраў і глыбіню 1,5-3 сантыметры. Ёсць розныя версіі, якія тлумачаць прызначэнне гэтых ямак. Некаторыя даследчыкі лічылі, што на камянях адлюстравана зорнае неба або нават план старажытнага пасялення. Аднак большасць з іх лічыць, што камяні з ямкамі - гэта камяні-ахвярнікі. Мяркуюць, што ямкі высякаліся для сямейных ахвяраванняў ці для варажбы. Ахвяры маглі прыносіць таксама і продкам ці прыродным сілам. Так, у Атласе гісторыі рэлігіі ёсць малюнкі германскіх камянёў з ямкамі. У іх клалі ежу духам - эльфам. Падобны камень з ямкамі ёсць і ў Асеціі, на мяжы Еўропы і Азіі. Яго звязваюць з шырока распаўсюджанымі на Каўказе культавымі ахвярапрынашэннямі: на такім камяні рэзалі жывёлу, а яе свяшчэнная кроў збіралася ў ямках.

Эстонскія вучоныя лічаць, што звычай свідраваць ямкі прыйшоў у Прыбалтыку са Скандынавіі і іншых германскіх краін, аднак распаўсюджанне камянёў з ямкамі ў іншых краінах Еўропы і нават Азіі паказвае, што праблема іх паходжання намнога складанейшая. Як справядліва адзначыў літоўскі даследчык гістарычных камянёў **Рымантас Матуліс**, ніхто з вучоных, якія вылучалі розныя версіі, пакуль не адказаў дакладна на пытанне: хто, калі і чаму пачаў высякаць ямкі на камянях? Падобныя археалагічныя помнікі пакуль з'яўляюцца для нас загадкай, якую трэба яшчэ разгадаць. Вілейскія камяні чакаюць свайго даследчыка.

*Аляксандр ЗАЙЦАЎ, фота аўтара.*



## З НАРАДЖЭННЕМ!

У рэгіёне прыбавілася новых грамадзянаў:

**Шаноўныя бацькі!**
**Калі вы хочаце нараджэнне вашага дзіцяці адзначыць здымкам у "Рэгіянальнай газеце" - тэлефануйце 53841, 69667, дасылайце здымкі - мы змесцім іх БЯСПЛАТНА.**

**Смаргонь.** 02. 12 Насця Завялава, 27. 11 Алена Лявоненка, 20. 11 Валерыя Функ, 29. 11 Арына Ількевіч, 25. 11 Юля Даўгаполая, 17.11 Віка Кісялёва, 26. 11 Дзмітрый Вартаховіч, 27. 11 Ганна Габрылёва, 25. 11 Каця Нядужка, 21. 11 Дар'я Карабка, 11. 11 Аляксандр Шаковіч, 02. 12 Таня Мазон, 28. 11 Андрэй Рыдзель, 27. 11 Герман Шаракоў, 20. 11 Насця Камінская, 05. 12 Каця Комлева.

**Валожын.** 20. 11 Аляксей Рубан, 30. 11 Алена Любецкая.

**Мядзел.** 24. 11 Надзея Жолуд, 26.11 Яўген Паршута, 31. 11 Вераніка Роўда, 15.11 Станіслаў Каралёў, 03. 12 Андрэй Качэрга.

**Ашмяны.** 26. 11 Дзмітрый Станкевіч.

**Віншуем работнікаў ЗАГСаў з 80-годдзем гэтай установы. Шчасця Вам, здароўя. І далейшага супрацоўніцтва з "РГ". Дзякуй!**



## ВІНШУЕМ СА ШЛЮБАМ!

За **08.12-14.12** шлюб узялі наступныя пары:

**Смаргонь.** Не зарэгістравана.
**Мядзел.** Не зарэгістравана.
**Ашмяны.** Не зарэгістравана.
**Валожын.** Віктар Ксенз і Людміла Ляўковіч.

## Алкаголь замест шлюбаў

*АШМЯНЫ. Па суботах у будынку мясцовага райвыканкома рэгіструюць шлюбы.*

Доўгі час ЗАГС знаходзіўся ў 2-павярховым асабнячку. Грошай улада не знайшла на яго рамонт, ці па іншых меркаваннях, але работнікі ўстановы пераехалі бліжэй да выканкомаўскага начальства. Цяпер запрошаныя ў чаканні ўрачыстасці знаёмяцца з графікам прыёму наведвальнікаў, іншай аператыўнай інфармацыяй, што вісіць у вестыбюлі першага паверха.

А ў асабнячку працуе магазін АТ "Радыётэхніка". Там жа, на 2 паверсе, плануецца наладзіць гандаль алкаголем.

*Святлана ВЯЛЬСКАЯ.*

### Кур'ёзы

## І войска выратоўвае

*АСТРАВЕЦ. Падчас праходжання медыцынскай камісіі ў аднаго з прызыўнікоў выявілася, што той хворы на сіфіліс.*

Цікава тое, што хвароба гэтая ў яго была паўторная. Хлопец пра гэта не здагадваўся. Цяпер будучы абаронца лечыць свой "гонар" і дзякуе арміі, хаця там яшчэ і не служыў.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### Пад Новы Год

## З лёгкай парай!

*МАЛАДЗЕЧНА. Дзівосныя прыгоды здараюцца з людзьмі, што вырашылі акурат пад Новы год завітаць у лазню. У горадзе ёсць чатыры дзяржаўныя лазні з аднолькавым графікам работы.*

| | |
|---|---|
| №1. Грамадоўская, 17 | Чацвер 14-00 - 20-00 |
| №2. Буйніцкага | Пятніца 14-00 - 20-00 |
| №3. зав. Лазневы, 1 | Субота 9-00 - 20-00 |
| №4. Касманаўтаў, 19 | Нядзеля 9-00 - 20-00 |

Мяркуецца, што 24-га (серада) яны будуць працаваць у рэжыме чацвярга, 25-26 - выхадныя, ну, а рабочыя дні з 1 і 2 студзеня (чацвер-пятніца) перанесеныя на 30-31 снежня.

Наведванне лазняў №1 і №2 каштуе 11000 рублёў за чалавека (8000 для ільготнікаў), №3 - 8000 (5000). Каб трапіць у саўну (№4) на 2 гадзіны, трэба выкласці 35000. №1 прапануе саўну на 6 чалавек за 270000. Усюды працуюць цырульні. №3 прапануе дзяржаўны кошт стрыжкі - 15000. Буфет адкрыты ў №1 і №4. На Касманаўтаў можна атрымаць і добры масаж, цана якога ў параўнанні з прыватнымі кабінетамі даволі памяркоўная.

Як адзначыла дырэктар Галіна Малашка, усюды нядаўна зроблены рамонт. Найчасцей наведваюць першую і трэцюю лазні (адпаведна каля 800 і 1000 чалавек за тыдзень). Мужчыны ходзяць часцей за жанчын раза ў паўтара.

Ёсць лазні на некаторых прадпрыемствах горада, але нельга сказаць, што яны агульнадаступныя. Можна адзначыць паслугі, якія аказваюць у Чысці. Там кошт білета 8000, а саўны на 6 чалавек - 360000, ёсць буфет. Працуе "чысцілішча" з 12-00 да 22-00 у пятніцу для жанчын і суботу для мужчын. Гэткі ж графік плануецца і на святы.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

### Базарны дзень

**МАЛАДЗЕЧНА.** У сераду на рынку набыць прадукты харчавання можна было па наступных цэнах (у рублях у параўнанні з цэнамі мінулай серады):

| Прадукт | 10.12.97 | 17.12.97 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 62 тыс. | **62 тыс.** |
| Сасіскі, 1 кг | 74 тыс. | **74 тыс.** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 36 тыс. | 36 тыс. |
| Селядзец салёны, 1 кг | 38,5 тыс. | **38,5 тыс.** |
| Рыс, 1 кг | 20 тыс. | **20 тыс.** |
| Цукар, 1 кг | 20,5 тыс. | **20,5 тыс.** |
| Грэчка, 1 кг | 26 тыс. | **26 тыс.** |
| Алей, бутэлька 1 л | 48 тыс. | **50 тыс.** |
| Яйкі курыныя 1 дзес. | 26,5 тыс. | **26,5 тыс.** |
| Маянэз, 250 г | 10 тыс. | **10 тыс.** |
| Кава распушч. "Пеле", 100 г. | 48 тыс. | **50 тыс.** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 19 тыс. | **20 тыс.** |
| **Сялянскія прадукты:** | | |
| Смятана 1 л | 25тыс. | **30 тыс.** |
| Масла 1 кг | 84 тыс. | **84 тыс.** |
| Тварог 1 кг | 30 тыс. | **30 тыс.** |
| Малако 1 л | 8 тыс. | **8 тыс.** |
| Бульба вядро | 55 тыс. | **55 тыс.** |

Вялікі попыт на прадукты харчавання ў перадсвяточныя дні і рост курсу долара амаль да 40 тысяч прывялі да павелічэння цэнаў на некаторыя прадукты на харчовым рынку. З-за надвор'я колькасць прадаўцоў значна зменшылася, а некаторыя з іх нават спецыяльна прытрымліваюць тавар да калядаў. Таму продаж ідзе хутка, яйкі распрадалі за две гадзіны. Па 30 тысяч за кілаграм адляталі дрожжы. У выхадныя і святочныя дні на рынку будуць вялікія чэргі, таму раім усё неабходнае закупіць наперад, каб не марнаваць час на марозе.

*Аддзел інфармацыі.*

### Дзіцячыя радасці

## Будзе жыць падручнік

*МАЛАДЗЕЧНА. У СШ №12 у мэтах захавання "скарбніц мудрасці" з 23 па 26 снежня будзе праходзіць агляд-конкурс "Жыві, падручнік".*

Паводле ўмоў конкурсу, кожны вучань павінен звярнуць увагу на вокладку падручнікаў, прозвішча карыстальніка, якое павінна быць указана на апошняй старонцы; павінны быць падклееены пашкоджаныя лісты і сцёртыя непатрэбныя надпісы.

Па выніках агляду клас-пераможцу ўзнагародзяць вымпеламі "За беражлівыя адносіны да падручніка". А асобныя, найбольш акуратныя вучні, будуць заахвочаныя прызамі. За ходам конкурсу назірае спецыяльна створаная рэйдавая камісія.

*Жанна ЛАЗОЎСКАЯ.*

### Новае - добра забытае старое

## Сцеражыся, валютчык, дружынніка

*МАЛАДЗЕЧНА. Аднавілася дзейнасць добраахвотных народных дружын. Цяпер разам з міліцыяй горад увечары патрулююць хлопцы з павязкамі, на якіх значыцца герб горада.*

Каля 700 добраахвотнікаў выходзяць па графіку на дзяжурства, за якое кожны атрымлівае па 36 тысяч рублёў, дадатковыя дні да чарговага адпачынку. Магчымая траўма на вуліцы лічыцца як атрыманая на вытворчасці.

Плануецца правесці эксперымент. 5 чалавек аформіць па кантракце - іншыя грошы, ільготы. Дружыннікі збіраюцца штовечар у апорных пунктах (у горадзе іх 5), з 19 гадзін выходзяць на работу. Самымі небяспечнымі маршрутамі лічацца гарадскі парк і тэрыторыя ад Старога Места да "парашкоў". Патрабаванні да дружыннікаў жорсткія: пажаданы ўзрост - да 35 гадоў, добры фізічны целасклад. Бо даводзіцца ўдзельнічаць у аператыўных мерапрыемствах.

Як прыклад, двух хлопцаў міліцыя выкарыстоўвала ў якасці кліентаў валютчыкаў.

У штаб ДНД уваходзяць прадстаўнікі 17 прадпрыемстваў. Гэта былыя работнікі камітэта дзяржбяспекі, арміі, МУСа. **Алег Лаўроў** у свой час ваяваў у Афганістане, **Міхаіл Пачкоўскі** працаваў у мясцовым аддзеле ГРАУС. Начальнік штаба **Аляксандр Грыцэнка** скончыў 2 вышэйшыя ўстановы. Штабісты на прадпрыемствах праводзяць аргработу.

*Васіль САВІЦКІ.*

### Крымінал, здарэнні

## ...На 1 мільярд 400 мільёнаў

*Пачатак на 1-й стар.*

### Аб некаторых "аперацыях"

Пасля інвентарызацыі транспартных сродкаў недалічыліся аўтамашыны ВАЗ-21062. Роўна 4 гады, як "жыгуль" набылі ў навукова-вытворчай фірме "Лот" па цане ў 33 мільёны рублёў. Дзеля гэтага бралі крэдыт у філіяле Белаграпрамбанка. Але дзяржаўтаінспекцыяй машына зарэгістраваная на прыватную асобу - дырэктара В. Некалькі разоў "гаспадар" "П" выдавала даверанасць на права кіравання машынай свайму сыну. Наогул адсутнічаюць дакументы, якія пацвярджалі б выкарыстанне машыны ў мэтах ДМП.

Дзе транспарт, там і гаручае, якое можа выпарвацца. У "П" страты па бензіне склалі 6549 л на 54270900 рублёў.

У маі 94 года пачынае будавацца (у раёне забудовы вул. Гагарына) 40-кватэрны жылы дом. "П" фінансуе будаўніцтва 2-пакаёвай кватэры, аплачвае частку выкананых работ. Раптоўна адмаўляецца ад кватэры ў сувязі з адсутнасцю сродкаў. Просіць вярнуць першапачатковы ўзнос. Дагавор на кватэру пераафармляецца - і ўжо канкрэтны чалавек, а не будаўнічая арганізацыя абавязаная вярнуць "П" грошы. І сапраўды, праз 2 гады (рубель, як вядома, імкліва абясцэньваўся) асоба, на якую быў перазаключаны дагавор, пералічыла ДМП грошы. Без уліку індэксацыі, натуральна. Страты прадпрыемства панесла адносна невялікія - усяго 18 мільёнаў рублёў. Толькі вось пісьмовыя рашэнні працоўнага калектыву аб удзеле ў будаўніцтве, адмове і продажы недабудаванай кватэры адсутнічаюць. Асоба, якой дасталася двухпакаёўка, - сваячка.

Свае клопаты аб прадпрыемстве дырэктар ацэньвала матэрыяльна. Устаноўленыя выпадкі, калі ў ведамасць на атрыманне зарплаты В. і галоўны бухгалтар (родная сястра) упісваліся двойчы.

### Гандлёвы прыбытак

Прадукцыю прадпрыемства кіраўнік рэалізоўваў ніжэй за яе сабекошт. Ручнік, да прыкладу, прадаваўся за 15 тысяч (кошт тканіны для яго складаў 27580 руб.).

Ну, а набывалася і спісвалася ўсё, што толькі было магчыма: рубероід, мыла, посуд, шпалеры, дываны...

Калі крэсла захісталася пад усемагутнай В., пачала яна хуценька вывозіць і хаваць лішкі. У яе знойдзена больш за 4 тысячы адзінак матэрыяльных каштоўнасцяў. На суму 98 мільёнаў рублёў.

Адносна нядаўна ў дырэктара "П" згарэў драўляны дом у вёсцы. Па чутках, палаў ён доўга. Асабліва тое, што ў ім знаходзілася.

Пад арыштам В. спрабавала пайсці з жыцця - работнікі міліцыі выратавалі яе. Але ўсё ж такі на гэтым свеце ёй, напэўна, давядзецца адказваць за сваю бурлівую дзейнасць. Цікава, што з 1992 года на прадпрыемстве не было ніводнай рэвізіі, праверкі, нават інвентарызацыі.

*Васіль САВІЦКІ.*

**P. S. Аўтар удзячны начальніку аддзела эканамічнай злачыннасці вілейскага РАУС Леаніду Шлянскову за прадастаўленую інфармацыю. Прозвішчы і скарачэнні будуць расшыфраваныя рэдакцыяй пасля завяршэння следства.**

### Дзіцячыя радасці

## У Варшаву ці Кракаў?

*ВАЛОЖЫН. 90 вучняў Адамоўскай, Сакаўшчынскай, Дорскай, Івянецкай, Вішнеўскай школ, гімназіі больш за тыдзень правядуць у Польшчы.*

Тое, што дзеці Новы год сустрэнуць у сем'ях з Варшавы, Кракава, стала магчымым пры дапамозе фонда "Акцыя каталіцка". Зразумела, і бацькі абодвух бакоў матэрыяльна падтрымалі падарожжа.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Нямецкія снарады

*МАЛАДЗЕЧНА. У сярэдняй агульнаадукацыйнай школе мастацтваў пабывала дэлегацыя з нямецкага горада Кронсхагена.*

У ліку гуманітарных падарункаў школа атрымала некаторыя спартыўныя снарады. Дэлегацыя была прыемна ўражаная высокім узроўнем навучання дзяцей розным відам мастацтва і не менш здзіўленая тым, што гэтае навучанне з'яўляецца да таго ж і бясплатным.

*Тэрэса ВАСІЛЬЕВА.*

